*У Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь*

# Начальніку метро і яго бліжэйшым памочнікам пагражае адстаўка

**Мікалай ГАЛКО**

Мінскае метро — гэта не толькі эскалатары, прыгожыя станцыі, дакладны рух цягнікоў. Гэта яшчэ і месца, дзе ў апошні час дзяржаўная маёмасць дапамагла стаць багатым не аднаму прыватніку.

Ну, напрыклад, ці ведае што-небудзь самы зацяты балельшчык пра футбольны клуб Магілёўсельмаша? Магчыма, і знойдуцца адзін-два дзівакі, але на тое яны і дзівакі. А вось начальнік Мінскага метрапалітэна Павел Мітасаў не толькі ведаў пра аматараў футбола з Магілёва, але і перавёў у фонд развіцця клуба 50 тысяч рублёў. Дробязь, нават па мерках кастрычніка мінулага года, калі адбылося пералічэнне, — праедуць нейкія дзесяць тысяч пасажыраў — і неабходная сума ў кішэні. Так, відаць, і лічылі кіраўнікі метро.

Бо кур'ёзны выпадак з футбольным клубам — бадай, самае мяккае парушэнне.

Напрыклад, у сакавіку мінулага года па дагавору, падпісанаму П.Мітасавым, метрапалітэн яшчэ далей выслаў грошы, аж у горад Геленджык, для нейкай турбазы "Маяк" на будаўніцтва катэджа. Сума была адпаведная — 300 тысяч рублёў.

Хто ведае, аб чым марыў начальнік метрапалітэна, пералічваючы грошы ў далёкі расійскі горад, — гэта, як кажуць, яго асабістая справа. Толькі вельмі ўжо дорага каштуюць такія мары дзяржаве.

Есць блізкія людзі ў кіраўніцтва метро і побач з Мінскам. Аднаасобным распараджэннем Мітасава калгасу імя Войкава Мінскага раёна выдзелены 1 млн. рублёў. Бяры, калгас, карыстайся, у метро штодзённа шмат пасажыраў ездзіць. Ісці ж у банк старшыні калгаса не хацелася, бо там грошы дадуць толькі пад працэнты. А Павел Васільевіч за дзяржаўны кошт дзядзька добры, навошта яму тыя калгасныя працэнты.

Нешта аналагічнае адбылося і з сумесным прадпрыемствам "Пластыка", якому метрапалітэн выдзеліў на тры месяцы 3 млн. рублёў. (Ці не варта побач з вядомай літарай "М" напісаць на ўсіх уваходах у метро — самы добры банк?). Канешне, не для ўсіх прадпрымальнікаў П.Мітасаў стварае найзручнейшыя ўмовы. Цяжка сказаць, што звязвае яго са старшынёй калгаса, а вось з прадпрыемствам "Пластыка"... — падначалены, начальнік электрадэпо "Маскоўскае" Р.Пяткевіч — адзін з сузаснавальнікаў сумеснага прадпрыемства.

Цікавае спалучэнне: начальнік-сузаснавальнік — яно адкрывае шырокія гарызонты для справы. Так, электрадэпо перадало ў арэнду "Пластыцы" 504 кв. м вытворчых плошчаў, а потым рэалізавала без належнай ацэнкі вытворчае абсталяванне. Што ні гаварыце, карысна спалучаць начальніцкую пасаду і прадпрымальніцкія намеры.

Загадам начальніка метрапалітэна яшчэ ў 1991 г. былі перададзены шматгаліновай фірме "Экспрэс-2" два аўтамабілі. Бясплатна. Потым электронна-вылічальную машыну за грошы, але вельмі малыя. Са стратай для сябе ў 600 млн. рублёў.

Карысную здзелку з метрапалітэнам заключыў і нехта Д.Мерзан. Падземка ўступіла яму чвэрць сваёй долі маёмасці МП "Энергія". Д.Мерзану гэта каштавала 17 тыс. рублёў, хаця сапраўдны кошт той маёмасці перавышаў 320 тысяч.

Кантрольная палата даказала, што начальнік метрапалітэна П.Мітасаў аднаасобна распараджаўся чыстым прыбыткам прадпрыемства, выдзяляў беспрацэнтную фінансавую дапамогу каму хацеў.

Уласнік жа (спачатку Саўмін, потым гарсавет) не рэагаваў на фантастычна актыўную дзейнасць прадпрымальнікаў вакол метро.

Савет Кантрольнай палаты прапанаваў Мінгарсавету фактычна адправіць у адстаўку П.Мітасава і галоўнага бухгалтара У.Магілёўчыка, галоўнага інжынера У.Мацюніна, галоўнага эканаміста А.Кавальчука. Ці прыслухаецца да прапановы гарсавет, стане вядома крыху пазней.

*З кампетэнтных вуснаў*

# Вясна. У ДАІ трубкі зелянеюць

**Ці павялічылася апошнім часам колькасць аварый на аўтадарогах? Ці паменшала п'яных за рулём пасля ўвядзення новых штрафаў? Праўда, што ў рэспубліцы хутка будзе забаронена ездзіць на машынах з правым рулём? Пра гэта гутарка журналіста Сяргея Шостака з начальнікам ДАІ УУС Мінаблвыканкама А.Чуднікавым.**

**— Алег Аляксеевіч, як вы ацэньваеце сёлетнюю сітуацыю на дарогах?**

— Як цяжкую і складаную. І што самае галоўнае, мы не заўсёды ў стане яе змяніць.

Дазвольце невялікае "лірычнае адступленне". Калі я пачынаў службу ў ДАІ, паехаў неяк у адзін гарадок. Дарога жудасная, быццам пральная дошка. Сустрэўся з тамтэйшымі інспектарамі, спытаў, як аварыйнасць. Кажуць, слава Богу, пакуль што спакойна. Правялі праз некалькі гадоў туды шашу. За галаву хапаюцца, што ні дзень, то бітыя машыны. Чаму? Многія не зусім дакладна ўсведамляюць, што на вялікай скорасці, калі з'явіцца на дарозе нечакана нейкая перашкода, а асабліва ў дождж, з аўтакіраваннем можна і не справіцца.

Так, нядаўна адбылася трагедыя ў Беразіно. МАЗ і аўтобус, што ехалі насустрач адзін аднаму, пайшлі адначасова на абгон. Не хапіла некалькіх секунд, каб раз'ехацца...

Дарогі цяпер, вядома, далёкія ад ідэалу. І крытыка іх справядлівая. Але гэтай праблемай у першую чаргу павінны займацца эксплуатацыйнікі. Я ж хачу падкрэсліць — чым больш сучасная траса, тым вышэй на ёй павінны быць дысцыпліна і парадак. Бо калі ўзяць статыстыку восемдзесят трэцяга года і мінулага, то атрымліваецца — пры параўнальна аднолькавай колькасці ДТЗ загінуўшых стала амаль удвая больш. І яшчэ некалькі лічбаў: за тры месяцы гэтага года за перавышэнне скорасці прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці на дзве тысячы вадзіцеляў больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года.

**— Колькасць п'яных за рулём пасля ўвядзення новых штрафаў паменшылася?**

— На жаль, не. Што такое дваццаць тысяч рублёў для таго, хто "здымае" такую суму за некалькі гадзін і хто лічыць, быццам тугі кашалёк дае яму права на ўсё. Вы ведаеце, я без горычы не магу часам чытаць рапарты аб парушэнні правілаў руху. Пачынаеш думаць: дзе мы жывём? Днём інспектары складаюць пратакол на п'янага шафёра. Здавалася б, ну цяпер ён уціхамірыцца. Не. Увечары таго ж дня накіроўваецца на сваёй машыне ў бок рэстарана "Заслаўе", што пад Мінскам, і злятае ў левы кювет. У выніку — шафёр і яго спадарожніца дастаўлены ў бальніцу з траўмамі. За люты і сакавік толькі ў вобласці затрымана больш як 2 тысячы п'яных шафёраў.

**— А як вы адносіцеся да аўтамабіляў з правым рулём? Ці абмяркоўвалася пытанне аб забароне іх эксплуатацыі?**

— У прынцыпе, такія машыны, вядома, не павінны ездзіць у нашай рэспубліцы. Па-першае, вельмі нязручна ісці на абгон. Практычна выязджаеш на сустрэчную паласу ўсляпую. Акрамя таго, ледзь не ўсе гэтыя "Таёты", "Нісаны" за мяжой купляюцца на звалцы. Там жа клопаты пра бяспеку руху не ў прыклад нашым. Калі машына "выбегала" тэрмін — яе выкідаюць. І вось цяпер гэты металалом "лётае" па нашых дарогах. Дадайце яшчэ — адсутнасць запчастак. Карціна не з радасных. Цяпер мы вядзём статыстыку замежных машын у ДТЗ, але пра забарону "правага руля" пакуль што размовы не было.

**— Дарэчы, няма запчастак не толькі, скажам, для "Хонд", але і для "Жыгулёў" і "Масквічоў". Ды і да таго ж памяняць якую-небудзь дэталь цяпер некаторым не па кішэні. Ці не павялічвае гэта аварыйнасць?**

— Я лічу, што безумоўна. Раней, калі купляў запчастку, быў хоць упэўнены, што яна якасная. Цяпер жа табе могуць на рынку падсунуць саматробны тармазны шланг, які праз пару дзён лопне, і няма гарантыі, што ўдасца пазбегнуць трагедыі.

**— Ваш прагноз: ці будзе расці колькасць дарожна-транспартных здарэнняў у бліжэйшы час?**

— Гэта залежыць ад многіх фактараў. Сёння цяжка купіць бензін, рух, натуральна, зменшыўся. На дарогах спакайней. Але гэта пакуль што. Наогул жа, я мяркую, што індыкатарам бяспекі служыць колькасць п'яных вадзіцеляў і парушэнняў скорасці. І чым больш іх, тым больш сур'ёзнай увагі патрабуе да сябе дарога. І, магчыма, нават больш строгай.

*Государство против личности*

# Ешьте, воры, чужой шоколад...

В прошлом году к Рождеству дядя из Нью-Йорка выслал мне посылку с одеждой весом 10 кг. Здесь я ее получила вскрытой, весом 7200 г. Среди прелестных легчайших блузок, юбок и прочего лежали отечественные джинсы, которыми, видимо, мыли пол после ремонта, весом около килограмма. Описи в коробке, естественно, не оказалось. Позже, в телефонном разговоре с Нью-Йорком, выяснилось, что из посылки украдены куртка, джинсы, кроссовки.

В последние полгода из того же Нью-Йорка выслано в мой адрес 5 писем с фотографиями и новогодняя открытка. Писем не получила ни одного (!), а открытку — в конце февраля, в растерзанном конверте.

Несколько месяцев назад приятельница из Польши выслала бандероль с косметикой, бижутерией, сладостями. И назад к ней она не вернулась, и я ее не получила. Точно так же, как не получила заказное письмо с приглашениями для семьи.

Сыну ко дню рождения друг из польского города Каменьск выслал красивую музыкальную открытку. И что же? Открытка дошла, но из нее выдрали играющий элемент — он кому-то был очень нужен!

Письма из Германии и даже из Прибалтики приходят только вскрытыми (если приходят вообще).

А искать виновных я не имею права — это должны сделать отправители. Но мои отправители — люди очень порядочные и тактичные, они не понимают, как это можно украсть из письма или из посылки, и они просто не опустятся до розыска. Вот и выходит, что если человека ограбили на улице — его защитят милиция и суд, а если "почистили" посылку или письмо — спросить не с кого.

Так что не бойтесь, почтовые воры, никто вас не тронет. Носите на здоровье краденые куртки и джинсы, пользуйтесь косметикой, ешьте чужой шоколад...

**Нина ВОЛКОВА.**
**г.Барановичи.**

*Грымасы рынку*

# Хто змог, той і прыхапіў

**Па следу пяці тон масла, што знікла з магілёўскай базы, доўга ішлі работнікі аддзела падатковых расследаванняў. Нарэшце ў акцыянерным таварыстве "Фонд развіцця Магілёва" прызналіся, што гэта яны сваім невялікім калектывам "з'елі" дэфіцытны прадукт. Прама скрынкамі.**

А ўсё пачалося з палюбоўнага дагавору паміж брокерскай канторай гэтага таварыства і абласным аб'яднаннем мяса-малочнай прамысловасці. Прадпрымальнікі падрадзіліся паставіць метал, а перапрацоўшчыкі жывёлагадоўчай прадукцыі ў асобе генеральнага дырэктара Іосіфа Мігурскага ўзамен выдзеліць дваццаць тон масла і амаль столькі ж "расійскага" сыру. І зноў прэзідэнт акцыянернага таварыства Б.Кліменка просіць адпусціць пяць тон масла, нібыта для святочнага гандлю ў Магілёве. Кіраўніцтва аб'яднання такому чалавеку адмовіць не можа, і масла з базы "сплывае".

Але магілячане і ў вочы яго не ўбачылі. Як і аршанцы, якім, як сведчаць дакументы, быццам было прададзена масла праз філіял гандлёвага дома "Вольга". Толькі прыпёртыя да сцяны акцыянеры прызналіся следчым, што дакументы фіктыўныя, а масла яны падзялілі паміж сваімі работнікамі, на што і ёсць распіскі. Хто ўзяў па скрынцы, хто — па дзве-тры. А сам прэзідэнт Кліменка нават не памятае, колькі прыхапіў сабе асабіста. А ў гэты час радавым магіляўчанам выдзяляюць строга па талонах па дзвесце грамаў масла на душу на цэлы месяц.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ,**
**Белінфарм.**
**г.Магілёў.**

# ЗАМЕЖЖА

ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

## Собрались военные

**В брюссельской штаб-квартире НАТО состоялась встреча начальников генеральных штабов и представителей командования вооруженными силами государств — членов Совета североатлантического сотрудничества, в который входят страны НАТО, Восточной Европы и бывшие республики Советского Союза.**

Делегацию Содружества Независимых Государств возглавляет главком Объединенных вооруженных сил СНГ Евгений Шапошников.

## Обвиняется во всех грехах смертных...

**В кубинской столице начался судебный процесс по делу Эберто Лопеса, связь с которым стоила высокого поста и партийного билета бывшему идеологу компартии Кубы Карлосу Альдане.**

Как сообщило информационное агентство Пренса Латина, Лопесу предъявлены обвинения в "совершении деяний, наносящих ущерб экономическим планам страны", "подделке документов", "афере", "уклонении от уплаты налогов" и наконец "нарушении таможенных правил и правил обращения с твердой валютой".

## Клинтон выразил поддержку далай-ламе

**Президент США Билл Клинтон имел в Белом доме краткую встречу с находящимся в Америке далай-ламой Тибета и выразил ему "поддержку в защите прав человека в Китае".**

## Все дело в транспорте

**Министерство сельского хозяйства США пытается оперативно решить вопрос с фрахтом судов для доставки в Россию зерна в рамках американской программы "Продовольствие во имя прогресса".**

Как сообщили газете "Уолл-Стрит джорнэл" официальные лица министерства, этот вопрос продолжает оставаться практически единственным препятствием на пути к выделению России 700 млн. долларов в виде займа для приобретения в США продовольственных товаров.

## И центрифугу в подарок

**Отнюдь не почетный приз — "золотую шумовую центрифугу" — присудили в этом году берлинские гражданские инициативы, выступающие за чистоту воздушного пространства над столицей, федеральному министру транспорта Гюнтеру Краузе.**

Планируя линии воздушных сообщений над Берлином, министр действовал по принципу: "Шума должно быть в избытке для всего города". Лишь так можно объяснить, что подавляющее большинство воздушных линий — 85 процентов — "завязаны" на два аэропорта, находящиеся в городской черте, — Тегель и Темпельхоф.

## В Палермо чуть было не украли... фонтан

Сообщениями о краже произведений искусства из музеев и храмов в Италии никого не удивишь. Но преступление, которое удалось предотвратить полиции в пасхальную ночь в Палермо, претендует, пожалуй, на место в книге рекордов. Сицилийские воры задумали похищение с размахом: во внутреннем дворике одного из средневековых дворцов в центре города они погрузили в грузовик... мраморный фонтан. Изящная чаша со скульптурными украшениями, относящаяся к началу XIII века, чуть было не уплыла в руки неизвестных коллекционеров.

На беду грабителей во двор завернула полицейская машина, принимавшая участие в патрульной операции под кодовым названием "Спокойная Пасха". Арестованы четыре любителя старины, представившиеся как реставраторы.

## Таджыкістан: "афганскі варыянт"?

**Газета "Салам" змясціла артыкул, у якім заклікае іранскія ўлады больш актыўна ўздзейнічаць на падзеі ў Таджыкістане шляхам прапаганды "сапраўднага ісламу".**

Газета адзначае, што абстаноўка ў гэтай рэспубліцы ў многім падобная на становішча ў Афганістане, дзе маджахеды былі ўзялі за ўзор ісламскую рэвалюцыю ў Іране. Затым, аднак, яны скаціліся да "ісламу па-амерыканску", якому афганцаў вучылі вахабіцкая школа Саудаўскай Аравіі і мусульманскі універсітэт "Аль-Азхар" у Егіпце. Гэтаму садзейнічалі не толькі "пустыя рукі" Ірана і доларавыя ўліванні ЗША, але і недастатковая актыўнасць Ісламскай Рэспублікі ў галіне прапагандысцкай работы.

Сёння неабходна зрабіць тэрміновыя крокі з тым, каб не дапусціць паўтарэння ў Таджыкістане афганскага варыянту, а да чаго прывёў апошні — зараз бачна ўсім, працягвае "Салам". Газета мяркуе, у прыватнасці, арганізаваць рэлігійныя школы для таджыкскай моладзі ў правінцыі Харасан і актывізаваць прапаганду сярод таджыкскіх бежанцаў у Афганістане сродкамі радыё і тэлебачання. Калі зараз такая работа не запатрабуе вялікіх намаганняў і затрат, дык ужо гадоў праз дзесяць яна будзе вельмі складанай, калі ўвогуле магчымай. Між тым у выпадку развіцця падзей у Таджыкістане ў "станоўчым" напрамку яны акажуць уплыў на ўвесь сярэднеазіяцкі рэгіён, заўважае іранская газета.

**Алег КУЗЬМІН**

## А мора і стогне, і плача. Японскае

**МЗС Расіі пацвердзіла, што ядзерныя адходы былога СССР скідваліся ў Японскае мора, у адказ на запыт паўднёвакарэйскага пасольства ў Маскве.**

Урад Паўднёвай Карэі запатрабаваў спыніць такую практыку пазбаўлення ад адходаў і выступіў з прапановай правесці трохбаковую сумесную інспекцыю ў раёне мяркуемага скіду радыеактыўных рэчываў.

МЗС Расіі, у прыватнасці, заявіла пасольству Паўднёвай Карэі, што "пасля стараннага расследавання расійскі бок прадставіць паводле яго вынікаў даклад адпаведнай міжнароднай арганізацыі".

**Іван ЗАХАРЧАНКА.**

## Господин Шурига — человек-пароход



СЕВАСТОПОЛЬ.

Оживленный интерес местных жителей вызвал ошвартовавшийся в Севастопольском торговом порту сухогруз. Дело в том, что он принадлежит частному лицу — севастопольскому миллиардеру Сергею Шуриге, чье имя начертано на борту судна (на снимке), готового выйти в круиз по Индийскому океану. Сергей Шурига является владельцем крупного торгового дома, управляющим банком и учредителем газеты "Вечерний Севастополь".

**Фото Д.ТЕЛЕОРОВА.**

## Рускі характар?

**Віктар ЛЕБЕДЗЕЎ**

**Жыхары Дубая — аднаго з галоўных гарадоў Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў — у гэтыя дні са здзіўленнем знаёмяцца з расіянамі.**

Шматлікія "турысты з поўначы", як іх тут называюць, "прачэсваюць" запар магазіны і крамы на мясцовым рынку. У вялікіх колькасцях яны скупліваюць электроніку, пыласосы, фены, міксеры, тэлефоны, дарагія гадзіннікі і іншыя тавары. Самі таксама прыгандлёўваюць. Асаблівым попытам сярод працуючых у Дубаі індыйцаў, пакістанцаў, іранцаў карыстаюцца рускія біноклі, якія ў турыстаў можна купіць у тры разы танней, чым у мясцовых крамах.

Разам з тым, як піша мясцовы друк, прадаўцы магазінаў, што гандлююць дарагімі электроннымі таварамі, абзавяліся прыборамі для вызначэння фальшывых долараў, якія жыхары Расіі і іншых рэспублік былога СССР прывозяць, як высветлілася, у мностве. Уладальнік адной з крам, напрыклад, сцвярджае, што ўжо пяць разоў яны спрабавалі разлічыцца фальшывымі стодоларавымі банкнотамі. Прычым часцей за ўсё турысты нават не падазраюць, што прывозяць з сабой падробленую валюту.

Паводле слоў жыхароў Дубая, "турысты з поўначы" па паводзінах і даволі бедным адзенні прыкметна адрозніваюцца ад іншаземцаў з Захаду, жывуць у танных гасцініцах, сядзяць проста на тратуарах. У той жа час яны вельмі простыя, тварыскія і, можа, таму выклікаюць сімпатыі ў мясцовых арабаў.

*Параллели*

# Может быть, нас спасет "ржаной" рубль?

**Ярослав ШИМОВ**

**"—...Я вынужден настоятельно просить о повышении моего оклада.**

**— Опять? Ведь тебе только вчера повысили!**

**— Не вчера. Сегодня утром в девять часов. Какие-то несчастные восемь тысяч марок! И все-таки в девять утра это было еще кое-что. А потом объявили новый курс доллара, и я теперь не могу на них купить даже галстук, только бутылку дешевого вина. А мне необходим именно галстук.**

**— Сколько же стоит доллар сейчас?**

**— Сегодня в полдень он стоил тридцать шесть тысяч марок! А утром всего тридцать тысяч!**

**— Уже тридцать шесть тысяч! Дело идет быстрее кошачьего романа! Чем же все это кончится?"**

Такой невеселый разговор ведут герои романа Э.Ремарка "Черный обелиск". Действие его происходит в 1923 году, когда инфляция в Германии, взяв разбег в 1921-м, достигла своего пика. Трудно поверить, что с немецкой маркой, ныне одной из самых уважаемых валют, когда-то происходили метаморфозы, по сравнению с которыми современное обесценивание рубля и прочих денег, расплодившихся на территории бывшего СССР, выглядит смехотворным. Хотя нам с вами, живущим в условиях этой пусть еще не гипер, но уже весьма серьезной инфляции, совсем не до смеха.

Германия в 20-е годы умудрилась выйти из положения: с 1 января 1924 года немецкое правительство ввело в обращение так называемую ржаную марку, стоимость которой приравнивалась к относительно стабильной стоимости определенной меры ржи. Позднее "ржаная марка" была заменена золотой, стоившей ни много ни мало — биллион (!) инфляционных марок 1923 года каждая! Спасению готовой рухнуть немецкой экономики послужило то, что правительству удалось согласовать с западными соседями вопрос о выплате огромного государственного долга Германии, а также репараций, которые побежденные в первой мировой немцы должны были выплачивать англичанам и французам. Был установлен фиксированный курс доллара по отношению к марке, и падение немецкой валюты прекратилось.

Нечто подобное, по мнению многих экономистов, стоило бы сейчас сделать и правительству России. Возможность договориться с Западом о приостановке выплаты долгов и введении фиксированного курса доллара к рублю пока есть. Страны "большой семерки" по политическим соображениям заинтересованы в стабильности экономики России и других стран СНГ, которые пока не вышли из рублевой зоны, а значит, волей-неволей вместе с российскими рублями "импортируют" и российскую инфляцию. Введение фиксированного курса доллара прекратило бы и безудержное обогащение небольшой группы дельцов, которым каждое повышение курса "зеленого" на Московской валютной бирже приносит миллионные барыши. А миллионам бывших советских граждан — очередной приступ головной боли при виде обрастающих нулями магазинных ценников.

Правительства многих экс-советских республик, устрашенные темпами российской инфляции, пошли на ввод в обращение собственных национальных валют. Беларусь в этом плане придерживается пока "золотой середины": наши "зайчики", защищая в первую очередь продовольственный рынок республики и более-менее выручая народ в период кризиса рублевой наличности, имеют параллельное хождение с российскими деньгами. Ввод в обращение полноценной национальной валюты, как показывает практика, возможен лишь при наличии множества серьезных экономических предпосылок. Украина, слегка поторопившись со своим карбованцем, теперь пожинает горькие плоды этой спешки: курс карбованца низок настолько, что один киевский журналист даже пошутил насчет "оскорбительной тяжести "деревянного" рубля по отношению к откровенно бумажной украинской валюте".

С другой стороны, в странах Балтии национальные валюты относительно стабильны. Но какой ценой эта стабильность достигнута? Прошлой осенью Национальный банк Латвии установил курс латвийского рубля к российскому как 1 к 3. Это вызвало резкий спад производства, ориентированного, естественно, на восточный рынок. В начале нынешнего года по сравнению с январем 1992-го производство в Латвии сократилось чуть ли не наполовину — на 45,4%! Пострадало от этого в первую очередь "русскоязычное меньшинство", представители которого в основном заняты (вернее, были заняты) на производстве. Между прочим, среди этого "меньшинства", составляющего 40% населения Латвии, и 90 тысяч белорусов... Не думаю, чтобы этих людей, потерявших работу и средства к существованию, очень уж радовала достигнутая за их счет стабильность латвийской валюты.

Подобным образом — стремясь к стабилизации рубля за счет сокращения производства, закрытия убыточных предприятий и роста безработицы, — пыталось действовать в прошлом году и российское правительство Гайдара. К августу 1992-го инфляцию удалось стабилизировать на уровне 9% в месяц. Осенний нажим на "команду реформ" со стороны промышленного лобби, кредиты, которые правительство вновь начало выделять предприятиям, привели к росту инфляции до 25% в декабре, когда съезд народных депутатов "сверг" Гайдара. Новый премьер-министр В.Черномырдин, придя к власти, сразу "отстегнул" многомиллиардный кредит родному нефтегазовому комплексу, и инфляция в январе рванула ввысь, поднявшись почти до 50-процентного уровня. Это, кстати, именно тот уровень, за которым начинается гиперинфляция, когда бартер просто-напросто вытесняет с рынка деньги, окончательно утратившие свою ценность. Поставив у края гиперинфляционной пропасти, Россия (а вслед за ней и мы, зависящие и от российского сырья, и от российского рубля) умудрилась пока в нее не рухнуть. Естественно, политические склоки в московских "верхах" отнюдь не способствуют ходу реформ и стабилизации экономики, неразрывно связанной с политикой. Они еще больше осложняют и без того очень непростой выбор: продолжать искусственно удерживать на плаву неэффективные предприятия, оберегая миллионы их работников от безработицы, но зато подстегивая ничем не обеспеченными деньгами бесконечный рост цен, — или добиваться финансовой стабилизации, обрекая добрую половину госсектора на банкротство, а экономику — на небывалый спад производства во имя грядущего рыночного процветания? А может быть, попытаться найти третий, эволюционный вариант реформы, пусть небыстрый, не гарантирующий моментального избавления от инфляции, но и не возводящий во главу угла принцип "каждый умирает в одиночку"?

